# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №5 чэрвень 2015 году




## Выбары: назіраем разам

**Улады прызначылі прэзідэнцкія выбары на месяц раней, чымсьці анансавалі іх раней. Замест 15 лістапада – на 11 кастрычніка. Зрэшты, гэта нічога ў перадвызначанай сітуацыі – ад хады выбараў да выніку – не мяняе.**

Што да апазіцыі, то мы пакуль назіраем фактычна той самы парад кандыдатаў, як і на выбарах-2010. Сярод амаль дзясятка прэтэндэнтаў на кандыдацтва і Таццяна Караткевіч, чыю кандыдатуру падтрымалі партнёры Руху «За Свабоду» па «Народным рэферэндуме» - кампанія «Гавары праўду», а таксама Партыя БНФ.

Заява Рады Руху, прынятая яшчэ ў красавіку наконт фармату ўдзелу ў кампаніі прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны адбыцца сёлета 15 лістапада, застаецца актуальнай. Рашэнне пра тое, што Рух «За Свабоду» устрымліваецца ад падтрымкі якога-кольвек кандыдата ў прэзідэнты, перагляддацца не будзе. Прычым парад гэтых самых кандыдатаў і тое, як імі вядзецца падрыхтоўка да выбараў, пацвярджаюць слушнасць пазіцыі нашай арганізацыі.

Лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч так пракаментаваў сітуацыю:

«Калі мы пачыналі ўдзельнічаць у працэсах дэмакратычнай кааліцыі, так званай «сямёркі», то хацелі аднаго, каб апазіцыя кансалідавалася і быў абраны адзіны кандыдат. Чаму ён нам так патрэбны? Дакладней, не нам патрэбны, а Беларусі.

працяг на стар. 4

## «За свабоду думкі-2015»

**20 чэрвеня адбылося ўручэнне прэміі «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава. Сёлетнім лаўрэатам стаў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, творы якога шмат хто ведае яшчэ са школы.**



Цырымонія ўганаравання традыцыйна прайшла на малой радзіме Васіля Быкава, у вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці, блізка дня нарадзінаў пісьменніка (19 чэрвеня). Удзел у імпрэзе, якую вёў акцёр, вядучы «Падарожжаў дылетанта» Юрый Жыгамонт і падчас якой выступіў музыка Лявон Вольскі, узялі больш за сто чалавек.

Сярод іх такія вядомыя асобы, як былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч, мастакі Алесь Марачкін, Мікола Купава і Алесь Пушкін, эканаміст Сяргей Чалы, бард Віктар Шалкевіч, гісторык Міхась Біч, паэты Андрэй Хадановіч і Міхась Скобла, перакладчык, грамадскі дзеяч Лявон Баршчэўскі, палітык Павел Севярынец, гісторык, прафесар Леанід Лыч, дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га склікання Андрэй Клімаў і г.д.

Шмат хто з выступоўцаў чытаў вершы, у тым ліку Ніла Гілевіча.

працяг на стар. 2

# Рэзервы канкурэнтаздольнасці

**25 чэрвеня ў Мінску ў межах ініцыяванай Рухам «За Свабоду» кампаніі «Народная праграма» адбылася эканамічная канферэнцыя «Стан і шляхі паляпшэння канкурэнтаздольнасці Беларусі».**

Дасюль Беларусі няма ў Сусветным індэксе канкурэнтаздольнасці (Global Competitiveness Index). Патрапленне ж у яго можа стаць для нашай краіны штуршком для развіцця, сказаў пад час канферэнцыі дырэктар Даследчага цэнтра Інстытута прыватызацыі і менеджменту Аляксандр Чубрык. Гэтак у свой час сталася для шэрагу дзяржаваў, якія рэалізавалі ў выніку перспектыву ўступлення ў Еўрасаюз.

Беларусь спрабавала трапіць у Сусветны індэкс канкурэнтаздольнасці два гады таму, але безпаспяхова, нагадаў эканаміст, кіраўнік CASE-Belarus Серж Наўродскі: «Бо незразумела, ці можа метадалогія стварэння рэйтынгу адэкватна ацэньваць такія дзіўныя краіны, як нашая».

Эксперт патлумачыў, што Сусветны індэкс канкурэнтаздольнасці складаецца з 1979 году, у яго рамках ацэньваюцца 144 краіны па прыкладна 100 паказчыках. Па ягоных словах, калі Беларусь спрабавала трапіць у гэты індэкс, было праведзенае сумеснае з Міністэрствам эканомікі даследаванне, вынікі якога былі даволі аптымістычнымі.

«У 2012 годзе Беларусь магла заняць 63-е месца», - заявіў Наўродскі, патлумачыўшы, што даволі нізкае месца звязанае з тым, што даследаванне праводзілася па выніках 2011 году, калі здарылася значная дэвальвацыя і адбываліся іншыя негатыўныя эканамічныя працэсы.



Па выніках 2013 году, дадаў эксперт, сітуацыя істотна палепшылася, і магло быць 54-е месца. Сярод праблемных месцаў нашай эканомікі, якія выявілі даследаванні, ён назваў стан рынка працы і бізнесу, інфляцыю, знешнія пазыкі, сярод плюсаў – параўнальна нізкі ўзровень карупцыі, напаўненне дзяржаўнага бюджэту, фінансавы сектар.

«Беларусь не так даўно выглядала ледзь не лідарам у рэгіёне, але прагрэс суседзяў пакінуў нас далёка ззаду», - адзначыў эканамічны аналітык Сяргей Чалы.

Па ягоных словах, структурныя змены ў Беларусі ўсё ж адбываюцца, але меншыя, чым у суседзяў, прыкладна на тым самым узроўні, што і ў Расіі. Краіна існуе з сыравінным праклёнам «і ў нейкай ступені Беларусь сапраўды здабывае сыравіну, але ў Расіі», сказаў Сяргей Чалы. З 2007 году назіраецца змяншэнне замежных інвестыцый у эканоміку Беларусі, дадаў выкладчык Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэту Мікалай Сіняк.

Пра стан эканомікі Босніі распавёў на канферэнцыі тамтэйшы прадстаўнік Еўрапейскай ініцыятывы па стабільнасці Аднан Чэрымагіч, брытанскі эксперт Георгій Плашчынскі (IHS) патлумачыў прычыны росту эканомікі Польшчы да 2012 году, дактарант польскай Акадэміі навук Аляксандр Папко расказаў пра магчымасці развіцця і перашкоды для малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі.

Рэдактар часопісу IdeaBY Journal Рыгор Астапеня паразважаў пра магчымасці фундаментальнай навукі як драйвера для росту эканомікі, пра фондавы рынак распавёў эканаміст Аляксей Харкевіч, пра вынікі праграмы па мадэрнізацыі дрэваапрацоўкі ў Беларусі - Ігар Крэбс, а пра перспектывы рэформаў у сельскай гаспадарцы – сябра Руху Андрэй Юркоў.

Падводзячы вынікі канферэнцыі, першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч адзначыў, што «напрацоўкі «Народнай праграмы» з'яўляюцца публічнымі і даступнымі ўсім палітычным сілам». «Іх выкарыстоўвалі пад час парламецкіх выбараў 2012 году, мясцовых 2014 года. Цяпер мы прапануем звярнуцца да іх кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах-2015», - заключыў Губарэвіч.



# Чаму «так», а не «не»?




Народный Референдум




**На сайце «Народнага рэферэндуму» ёсць сэрвіс, праз які можна задаваць любыя пытанні лідарам структур, якія выступілі з гэтай ініцыятывай. У тым ліку першаму намесніку старшыні Руху «За Свабоду» Юрасю Губарэвічу. Персанальна яму задалі пытанне, на якое ён палічыў патрэбным адказаць публічна, бо прагучала яно ўпершыню.**

Свой адказ адзін з лідараў Руху змясціў у блогу на «Беларускім партызане». Прапануем яго да вашай увагі:

«Пытанне ад ананіма было такое: »Если это демократично-добровольный опрос, то почему нет варианта ответа на вопросы «нет» - почему только «да»?

На сайце «Народнага рэферэндуму» (referendumby.org) можна ўпадабаць тое альбо іншае з шасці пытанняў з яго парадку дня. Такім чынам мы атрымліваем ранжыраванне гэтых пытанняў паводле папулярнасці.

Лідар – пытанне нумар 5, далей ідзе пытанне нумар 2, трэцяе месца дзеляць пытанні 3-4. Вынікі карэлююцца, у прынцыпе, з тым, што мы чуем, ездзячы па Беларусі і камунікуючы з народам.

**Чаму нельга адказаць «не»?**

Таму што мы праводзім кампанію – збіраем подпісы (іх ужо 120 тысяч) – менавіта за правядзенне «Народнага рэферэндуму», а не супраць. А магчымасць сказаць «не», як і «так» павінна даць грамадзянам Беларусі ўлада, прызначыўшы ўсенароднае галасаванне па значных пытаннях далейшага развіцця краіны!

І вось якраз пытанні, чаму нам з вамі нельга сказаць «не» тым альбо іншым дзеяннем і рашэннем, павінны найперш адрасавацца ўладам. Таму што ў беларусаў ніхто не пытаўся іхняга меркавання, напрыклад, падпісваючы дамовы пра АДКБ і Еўразійскі саюз, упадаючы ў залежнасць ад Расіі і мінімізуючы такім чынам шанцы на еўраінтэграцыю, неабходную для мадэрнізацыі нашай эканомікі і павышэння ўзроўня жыцця».



> **«У беларусаў ніхто не пытаўся іхняга меркавання, напрыклад, падпісваючы дамовы пра АДКБ і Еўразійскі саюз, упадаючы ў залежнасць ад Расіі і мінімізуючы такім чынам шанцы на еўраінтэграцыю, неабходную для мадэрнізацыі нашай эканомікі».**

**Шэсць пытанняў «Народнага рэферэндуму»:**

1. Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?
2. Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?
3. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?
4. Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?
5. Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?
6. Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?

# Выбары: назіраем разам (працяг)

працяг ад стар. 1

Няма ў краіне рэальнай палітычнай канкурэнцыі, няма рэальнага падліку галасоў.

Калі мы кажам, што людзі павінны ведаць, што ёсць альтэрнатыва, то гэта апазіцыйная дэмакратычная альтэрнатыва не ў растапырку павінна ісці рознымі калонамі, а павінна мець адзіны пазнавальны твар. І ўсе ведалі б, што вось на гэтага чалавека паставілі дэмакраты. Акрамя таго, шчыра скажам, што разгром апазіцыі, які асабліва моцны быў пасля прэзідэнцкіх кампаніі і наймацнейшы – у 2010 годзе, прывёў да таго, што ў яе зараз ёсць сілы толькі на адну сумесную прыстойную кампанію".

Мілінкевіч зазначае, што пазіцыя Руху – «гэта не байкот, а ігнараванне. Ігнараванне, таму што мы не бачым перспектыў у паходзе многімі кандыдатамі».

Непадтрыманне Таццяны Караткевіч, як і іншых кандыдатаў у прэзідэнты, абсалютна не азначае і развалу «Народнага рэферэндуму».

Рэч у тым, што «Народны рэферэндум» не ствараўся для таго, каб вылучыць кандыдата на прэзідэнцкія выбары, кажа першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч:

«Мы заяўлялі пра гэта першапачаткова. Мэта «Народнага рэферэндуму» іншая. Гэта кампанія, якая заклікана аб'яднаць большасць людзей у Беларусі вакол ідэі мірных пераменаў, у прыватнасці, правядзення рэферэндуму па шасці пытаннях, якія ўпісаны намі ў парадак дня.

Мы не прымяркоўваліся гэтую кампанію да якіх-небудзь выбараў – мясцовых, прэзідэнцкіх альбо парламенцкіх. Гэтыя выбары ўважаюцца як механізм па прасоўванні парадку дня «Народнага рэферэндуму» да як мага большай колькасці грамадзян, выкарыстоўваючы магчымасці выбарчай кампаніі.




Асноўная частка працы робіцца ў міжвыбарчы перыяд, у прыватнасці, гэта збор подпісаў, правядзенне грамадскіх слуханняў, сустрэчы з людзьмі. Мы робім гэта кожны дзень, і Рух «За Свабоду» працягвае гэта рабіць».

## Нагадаем, змест заявы Рады Руху датычна выбараў-2015:

«Рада Руху «За Свабоду» са шкадаваннем канстатуе, што нават глыбокі эканамічны крызіс у Беларусі і пагроза для суверэнітэту краіны з боку Расіі не спрычыніліся да кансалідацыі дэмакратычных сілаў Беларусі ў імя незалежнасці, дэмакратыі, рынкавай эканомікі і еўрапейскага выбару.

На вялікі жаль, брак адказнасці і дамоваздольнасці да сённяшняга дня не дазволілі прыняць працэдуру вызначэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сілаў.

Лічым, што паход на выбары асобнымі калонамі дэзарыентуе прыхільнікаў пераменаў і паглыбіць апатыю ў грамадстве. Імітацыя ўдзелу ў выбарчым палітычным працэсе з загадзя прадказальным фіналам можа адштурхнуць людзей ад дэмакратычных сілаў.

Ад моманту стварэння Рух «За Свабоду» ставіў за мэту пашырэнне патрыятычных і праеўрапейскіх настрояў, фармаванне крытычнай масы грамадзянаў, якія ў стане рэальна адстаяць незалежнасць і дэмакратычны выбар Беларусі. Мы і надалей будзем дзейнічаць дзеля яе дасягнення, не абмяжоўваючыся рамкамі выбарчай кампаніі.

Рух «За Свабоду» заяўляе, што ўстрымліваецца ад вылучэння свайго кандыдата і падтрымкі іншых кандыдатаў падчас прэзідэнцкай кампаніі 2015 году. Арганізацыя сканцэнтруецца на распрацоўцы прапановаў эканамічных рэформаў у рамках «Народнай праграмы», ініцыятыве дзеля мірных пераменаў «Народны рэферэндум», а таксама на кампаніях па назіранні за ходой выбараў і за вызваленне палітычных вязняў».

Чаму калі выбараў фактычна няма, Рух «За Свабоду» мае намер сканцэнтравацца на назіранні за імі?

«Пра тое, што выбараў на сёння няма, і яны фальсіфікуюцца, сёння ведае менш за палову выбаршчыкаў. Ад 60 да 70% апытаных пасля выбараў кажуць, што, на іх думку, выбары прайшлі абсалютна без парушэнняў альбо без значных парушэнняў.

Калі мы не ўдзельнічаем у назіранні за выбарамі і не даем грамадству канкрэтныя факты гэтых парушэнняў і фальсіфікацый, казаць пра тое, што ўлада сама сябе абрала незаконна, не даводзіцца. Мы прывыклі дзейнічаць не галаслоўна, а абапіраючыся на канкрэтныя факты, якія мы збіраемся атрымаць падчас кампаніі назірання за выбарамі», - адзначае Губарэвіч.

Рух «За Свабоду» будзе назіраць за выбарамі разам з іншымі дэмакратычнымі сіламі ў межах кампаніі «Права выбару». На жаль, падрыхтаваныя прапановы па зменах у выбарчае заканадаўства былі праігнараваныя парламентам і Цэнтрвыбаркамам.

Законапраект дэмсілаў прадугледжвае скасаванне палажэнняў, якія з’яўляюцца прадметам крытыкі з боку нацыянальных і міжнародных назіральнікаў, а таксама ўвядзенне дадатковых гарантый свабодных і справядлівых выбараў.

Так, павышаецца рэпрэзентатыўнасць тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій, пашыраюцца магчымасці палітычных партый для ўдзелу ў правядзенні выбараў шляхам накіравання сваіх прадстаўнікоў у склад выбаркамаў, прадугледжваецца ўвядзенне інстытута членаў ЦВК з правам дарадчага голасу на парламенцкіх і мясцовых выбарах.

Таксама ўводзяцца дадатковыя гарантыі свабоднага і бесперашкоднага ажыццяўлення назірання за працэсам галасавання і падлікам галасоў, прадугледжваецца пашырэнне магчымасцяў інфармавання грамадзян аб дзейнасці выбаркамаў з дапамогай інтэрнэту.

Прапануецца стварэнне рэспубліканскага рэестра выбаршчыкаў, скарачэнне перыяду датэрміновага галасавання да двух дзён з увядзеннем дадатковых мер, накіраваных на прадухіленне прымусу да датэрміновага галасавання, датэрміновага галасавання без дастатковых падстаў, незаконных маніпуляцый са скрынямі для галасавання ў перыяд датэрміновага галасавання.

Законапраектам прадугледжваецца магчымасць онлайн-трансляцыі, відэаназірання і відэазапісу з выбарчых участкаў, абавязковы выраб скрынь для галасавання з празрыстага матэрыялу. Здымаюцца абмежаванні на правядзенне агітацыйных масавых мерапрыемстваў, адмяняецца забарона агітацыі на карысць няўдзелу ў выбарах.



**Калі мы не ўдзельнічаем у назіранні за выбарамі і не даем грамадству канкрэтныя факты гэтых парушэнняў і фальсіфікацый, казаць пра тое, што ўлада сама сябе абрала незаконна, не даводзіцца. Мы прывыклі дзейнічаць не галаслоўна, а абапіраючыся на канкрэтныя факты**

Уводзіцца статус асабістай недатыкальнасці і іншыя гарантыі дзейнасці для ўсіх кандыдатаў у прэзідэнты, прадугледжваецца ўвядзенне інстытута члена ўчастковага, тэрытарыяльнага выбаркама з правам голасу, накіраванага ў якасці прадстаўніка кандыдата ў прэзідэнты пасля яго рэгістрацыі.

Пашыраюцца магчымасці для грамадскага кантролю за выбарамі шляхам ўрэгулявання працэдуры стварэння і фарміравання складу Назіральнай рады па кантролі за выкананнем парадку і правілаў правядзення передвыбарчай агітацыі, у якім абавязкова будуць удзельнічаць і прадстаўнікі недзяржаўных СМІ, праваабарончых і іншых аб’яднанняў.

Акрамя таго, пашыраюцца магчымасці для судовага кантролю за дзейнасцю органаў, якія ажыццяўляюць падрыхтоўку і правядзенне выбараў, у тым ліку абскарджання дзеянняў выбаркамаў і іншых парушэнняў заканадаўства.

********

*Рада Руху «За Свабоду» заклікае сяброў і прыхільнікаў арганізацыі, а таксама ўсіх тых, каму неабыякава, як лічаць нашы галасы на выбарах, далучацца да кампаніі назірання «Права выбару». Ахвотным звяртацца да намесніка старшыні Руху Юрася Губарэвіча (тэл.: +375296512959, e-mail: hubarevich@gmail.com) і сябра Рады Руху, сукаардынатара кампаніі «Права выбару» Алеся Сілкова (тэл.: +375296520048, e-mail: silkou@gmail.com).*

*Назіраннем кампаніі «Права выбару» будзе закрытая тысяча ўчасткаў з 6170 па ўсёй Беларусі. Паўтысячы чалавек будуць вылучацца ў склад выбарчых камісій. Уласна Рух «За Свабоду» наважаны ахапіць 150 участкаў не менш як 300 назіральнікамі.*

# «За свабоду думкі-2015»




Алесь Марачкін, які абвяшчаў імя лаўрэата, успомніў часы, калі Ніл Гілевіч быў народным дэпутатам БССР і на ўвесь свет расказаў пра праблемы беларускай мовы

«Яго сэрца балела і баліць за ўсё, што адбываецца ў нас», – зазначыў Марачкін, а пасля працытаваў некалькі радкоў з творчасці паэта: «Пакуль паэты будуць пець – не быць Радзіме безыменнай, зямлі бацькоў не анямець!»

Міхась Скобла нагадаў, што Ніл Гілевіч увойдзе ў гісторыю, бадай, як адзіны паэт, што выдаў збор сваіх твораў у 23 тамах на ўласную пенсію.

Людзей заслужаных у нас шмат, а ўзнагароджаных мала, таму важна, што ў гэтым годзе прэмію атрымаў Ніл Гілевіч, сказаў падчас цырымоніі старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч: «Часта бывае, што чалавек пры жыцці мала чуе добрых словаў. Ну так, ён вялікі, значны і ўсё такое, але ён сядзіць адзін, як Гілевіч. Ён даўно не выходзіць з дому, яму цяжка маральна. І калі яму сказалі пра гэтую прэмію, ён заплакаў. Проста ён казаў: «Не чакаў, і для мяне не ведаеце, якая гэта асалода«. Таму трэба паспець сказаць людзям вялікі дзякуй за такі лёс і за столькі працы, колькі ён зрабіў на карысць Беларусі».

На жаль, па стане здароўя лаўрэат прэміі «За свабоду думкі-2015» Ніл Гілевіч (паэту 83 гады) не здолеў прыехаць у Бычкі: узнагарода была перададзена яму пазней у Мінску. Але на мерапрыемстве прагучаў аўдыёвыступ паэта, у якім ён параважаў пра місію носьбітаў свабодных думак.



«Праз усю гісторыю чалавецтва людзі, надзеленыя ў належнай меры пачуццём грамадзянскай годнасці, даражылі больш за ўсё свабодай думкі. Вядома, і людзі свету мастацтва – паэты, музыкі, жывапісцы, скульптары. А, можа, і ў першую чаргу яны, бо іхняя жыццёвая місія – выўляць сябе, сваю душу. Што, якую душу выўляеш, мастак? Душу свабоднага грамадзяніна ці душу халуя і лёкая? Каму служыш – праўдзе ці хлусні? – разважае Ніл Гілевіч. - Каму молішся –










небу ці залатому цяльцу? Тут водападзел паміж творцамі сапраўднымі, вартымі людской павагі, і сервільнымі прыстасаванцамі ў мастацтве, якія на павагу свайго народу разлічваць не маюць права».

Ніл Гілевіч згадаў паэму «Курган» Янкі Купалы, у прыватнасці радкі, у якіх гусляр адказвае дэспату-князю на загад праспяваць песню на ўцеху яго вяльможным гасцям: «Гуслям, княжа, не пішуць законаў»; «Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць, не скуеш толькі дум ланцугамі».

«Калі нашая сённяшняя моладзь будзе ўваходзіць у сталае жыццё з гэтым купалаўскім запаветам, нашу Бацькаўшчыну чакае вялікая прыгожая будучыня», - перакананы народны паэт Беларусі.

Таксама прагучала адмысловая запісаная да цырымоніі нізка вершаў патрыятычна-грамадзянскай тэматыкі Ніла Сымонавіча ў выкананні самога аўтара.

***

*Прэмія «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава заснаваная лідарам Руху «За Свабоду» ў 2008 годзе. Ідэя ўзнікла пасля атрымання Аляксандрам Мілінкевічам прэміі «За свабоду думкі» імя Андрэя Сахарава, якую ўручае Еўрапарламент.*

*Узнагароджваюцца асобы, якія праявілі сябе грамадскай і творчай дзейнасцю на карысць Беларусі і Свабоды.*

*Лаўрэатамі прэміі мінулымі гадамі станавіліся літаратары Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, палітык-літаратар Павел Севярынец, мастак Алесь Пушкін, краязнаўца Ада Райчонак, палітык-паэт Уладзімір Някляеў, музыка Лявон Вольскі і краязнаўца Алесь Белакоз, музыка Зміцер Вайцюшкевіч, мастак Алесь Марачкін, акцёр Віктар Шалкевіч.*

*«Лаўрэатаў прэміі «За свабоду думкі« вызначае не Рух «За Свабоду», а выбітныя людзі Беларусі. Спачатку, у 2008 годзе, быў складзены спіс з 50 найбольш вядомых лідараў думак, якія і вызначылі першых уладальнікаў прэміі. У наступныя гады імёны пераможцаў сталі называць лаўрэаты папярэдніх гадоў. Такім чынам, журы кожны год папаўняецца аўтарытэтнымі асобамі. Лічу такі прынцып вельмі справядлівым і аб'ектыўным», - кажа старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.*





# Міліцыя і грошы апазіцыі

**Першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч атрымаў адказ з ГУУС Мінгарвыканкаму на свой ліст, у якім ён пытаўся пра тое, ці выкананыя дамоўленасці паміж мінскай міліцыяй і арганізатарамі сёлетняга «Чарнобыльскага шляха».**

Міліцыя выставіла арганізатарам «ЧШ-2015» кошт за паслугі аховы парадку падчас гэтага мерапрыемства ў памеры 13 млн. 661 тыс. 500 рублёў.

«У выніку перамоваў з міліцыяй напярэдадні «Чарнобыльскага шляху» была дасягнутая наступная дамоўленасць: арганізатары пагаджаюцца плаціць за ахову правапарадку, але грошы, якія ГУУС Мінгавыркамкаму спаганяе з іх, пералічваюцца дзіцячаму дому, над якім шэфствуе міліцэйскае ведамства», – прыгадаў Юрась Губарэвіч у лісце да начальніка ГУУС Аляксандра Барсукова.

Губарэвіч як адзін з заяўнікаў акцыі спытаў яго, ці выкананая дамоўленасць: «Гэты акт дабрачыннасці паспрыяе наладжванню грамадскага дыялогу і паляпшэнню іміджу беларускіх праваахоўных органаў».

Упраўленне аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкама паведаміла Юрасю Губарэвічу, што «былі набыты матэрыяльныя каштоўнасці (відэапраэктар Epson, камп'ютар HP Pavilion, экран Classic Gemini)». Яны ў якасці спонсарскай дапамогі пры канцы чэрвеня былі перададзены Радашковіцкай школе-інтэрнату для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў.

**Запрашаем да ўдзелу ў моладзевай школе Руху «За Свабоду».**

**Тэма гэтага году** - «Нацыянальны брэнд Беларусі».
**Час правядзення** - 22-29 жніўня.
**Заяўкі для ўдзелу дасылаць** да 26 ліпеня на адрас: edu.mff@gmail.com.

# Пасол яе Вялікасці ў Руху



**Амбасадар Вялікабрытаніі Брус Бакнэл завітаў у офіс Руху «За Свабоду», каб распавесці пра эвалюцыю палітычнай сістэмы сваёй дзяржавы і еўрапейскую інтэграцыю ўдзельнікам адукацыйнага курсу «Інтэграцыйныя працэсы і інстытуцыі ЕС», які выкладаюць для моладзі рухаўцы Алесь Лагвінец і Вераніка Мазуркевіч.**

Спадар Бакнэл акцэнтаваўся на асаблівасцях выбарчай сістэмы Вялікабрытаніі, падкрэсліў выключную ролю парламента і прадставіў вынікі нядаўніх выбараў, якія нечакана для многіх былі на карысць Кансерватыўнай партыі.

«Слухачы курсу задалі шмат пытанняў, якія тычыліся не толькі еўрапейскай палітыкі Вялікабрытаніі, але і ўнутраных праблемаў, а таксама брытанска-беларускіх адносінаў, - адзначыў намеснік старшыні Руху Алесь Лагвінец. – Напрыклад, ці справядлівая выбарчая сістэма Вялікабрытаніі? Якія выгады яна мае ад сяброўства ў Еўрасаюзе? Ці будзе адноўленая дзейнасць British Council у Беларусі?»

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 05.07.2015 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by